# Рабочы Бабруйска

19–25 кастрычніка 2000 г. Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213 807, Бабруйск, а/с 94, www.bobruisk.net. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА. №32

НАШЕ БУДУЩЕЕ

## ПОЧЕТНОЕ ЗВАНИЕ «СТУДЕНТ»

Актовый зал Бобруйского механико-технологического техникума был полон задолго до начала церемонии посвящения в студенты. Настроение у всех приподнятое. Первокурсники счастливы тем, что смогли "прощемиться" в БМТТ. Старшекурсники со снисходительным видом — вот посдавайте экзамены с наше... Атмосфера студенческого праздника создавалась песней "Во французской стороне", звучавшей в зале. Бойкие ведущие объявили: "Да празднует техникум весь!"

Парад специальностей БМТТ на сцене открыли химики-аналитики. Они чего-то там химичили с колбами и стаканами: "Подливаем мы в стакан, в голове у нас туман". Объяснив публике, что они знают такие секреты, что и в кислоте не растворяются, химички-аналитички уступили место "девочкам-резиночкам". Из их выступления стало понятно, что те тоже не промах — "обувают всю страну". В лихих частушках они разъяснили, что без резиновых изделий не обойтись ни в трудные минуты нашей жизни (резиновая клизма), ни в минуты удовольствия (сами знаете что).

Далее резинщики жаловались на трудности учёбы:

"А на резине, а на резине
Мы пишем много,
Аж палец синий".

Однако жизнь свою студенческую называли удалою, а первокурсникам советовали учить уроки, чтоб не выгнали.


Трудовая смена

Ярко сверкнули своими талантами доблестные электрики. Они заявили, что "электрик — это состояние души". Сложилось впечатление, что электрики — самые умные (потому что им всё до лампочки) и самые хитрые люди в техникуме. Потому что советовали первокурсникам дружить с начальством, но ненавязчиво намекали, мол, знают, что такое короткое замыкание. К тому же и девушки у них классные. Бурю восторга вызвало выступление двух больших "электричек".

Когда сцена была представлена первокурсникам, опять же блеснули электрики. Вечная тема — «студент, экзамен, шпоры». В группе ХТ–2–89 я приметила будущую звезду КВН. Явно кокетничал симпатичный парень из группы ТМ–43, читая белый стих про свой "17–й сентябрь печальный". Была близка зрителям и проблема, которую воспевали девушки из группы А–1–38: "Вахтёр не дает на крыльце покурить...".

Больше всего поразили девушки из группы ХТ–1–90 с триллером "Репка". Очень уж решительные девчушки. Для них гланды вырвать — раз плюнуть. «Трепещите, преподы!»

Еще первокурсников забросали коварными вопросами. Судите сами.

«Сколько человек нужно, чтобы поднять протектор?»

«Какого цвета корд?»

«Какой спирт можно употреблять в пищу?»

«Когда День машиностроения?» (Правильный ответ: когда у машиностроителей хорошее настроение.)

Видимо, на тот день пришлись все профессиональные праздники, потому что хорошее настроение было у всех студентов БМТТ. Дай Бог, чтобы будущие трудовые кадры не теряли оптимизма.

**Людмила РОДИКОВА.**

ПАКАЛЕННЕ

## МОЦ ДЗЯРЖАВЫ БАЧНА У ЯЕ АДНОСІНАХ ДА СЛАБЕЙШЫХ

Я думаю, кожны з нас хаця б раз у жыцці бачыў дзетак, вочы якіх глядзелі на свет са здзіўленнем, часам не атаясамліваючы сябе з гэтым светам. Медыцына і педагогіка, маючы сваю тэрміналогію, называюць іх дзецьмі з затрымкамі псіха-фізічнага развіцця (сярод якіх «дауны», аліграфрэны, дзеткі з аўтызмам, і інш.).

За гэтымі назвамі — не толькі дзіцячы, але і бацькоўскі боль, трывога за будучыню сваіх дзяцей. Добра, калі гэтую трывогу падзяляе і дзяржава.

Так, у красавіку бягучага года на базе дзіцячага садка № 34 быў створаны Цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання для дзяцей з затрымкамі псіха-фізічнага развіцця. Калектыў Цэнтра складаецца з высокакваліфікаваных, адданых справе людзей: з дзецьмі працуюць настаўнікі-дэфектолагі, сацыяльныя педагогі, псіхолагі, неўрапатолагі, медсёстры.

У Цэнтры арганізавана 6 карэкцыйных груп: 5 дашкольных, 1 школьная, якія наведваюць 52 дзіцяці. Яшчэ 38 дзетак прыходзіць на карэкцыйныя заняткі разам з бацькамі.

Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, Цэнтр мае басейн, з дзецьмі праводзіцца масаж, лячэбная фізкультура, заняткі з дэфектолагамі, эргатэрапія (працоўнае навучанне).

Аўтар гэтых строк трапіла ў Цэнтр разам з прадстаўнікамі Бабруйскага аддзялення Беларускай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам, і прысутнічала на круглым стале, у якім удзельнічалі сацыяльныя педагогі і псіхолагі Цэнтра, яго кіраўнік Наталля Міхайлаўна Секержыцкая і прадстаўніцы Асацыяцыі начале з Ларысай Анатольеўнай Длускай.

Размова паміж жанчынамі ішла аб будучым супрацоўніцтве, прычым, з боку Цэнтра было шмат прапаноў па дапамозе дзецям і бацькам: прапанавана правядзенне трэнінгаў для бацькоў, выезд псіхолага-медыка-педагагічнай камісіі на дом, дапамога сацыяльных педагогаў і псіхолагаў.

Пасля размовы была праведзена невялікая экскурсія, і на свае вочы мы пабачылі утульныя памяшканні і добразычлівых прадстаўнікоў Цэнтру, сустрэліся з дзецьмі.

Узрушыла ўсё убачанае і пачутае. Раней бацькі дзяцей з затрымкамі псіха-фізічнага развіцця былі вымушаны плаціць прыватным дэфектолагам па 3-5 долараў ЗША за 1 гадзіну заняткаў, прытым нішто не гарантавала якасных зрухаў; у матуль не было магчымасці нават на кароткі час адарвацца ад хворага дзіцяці.

Зараз у бацькоў і дзяцей з'явіўся шанц стаць паўнапраўнымі членамі грамадства.

**Надзея КОКАШ.**

## НЕЧАКАНЫЯ ГОСЦІ (ПЯТНІЦА, 13)

13 кастрычніка ў пятніцу на адрас, дзе нараджаецца газета "Крынічка", завіталі нечаканыя госці – чатыры работнікі міліцыі. Гэта было невыпадковае наведванне, — як паведамілі візіцеры, "сігнал паступіў" ад пільных суседзяў.

Агледзеўшы памяшканне і зрабіўшы выснову, што тут, магчыма, выраблялецца друкаваная прадукцыя, падпалкоўнік у штацкім выклікаў "дадатковыя сілы", а таксама аператара з камерай, які зняў на відэа ўсё, што яму загадалі.

З размоў па рацыі стала зразумела: на той момант разглядалася верагоднасць канфіскацыі апаратуры. Але па прычыне адсутнасці гаспадара, альбо з іншай нагоды, гэтага рабіць не сталі. Пакінуўшы для заснавальніка газеты шэраг распараджэнняў, нечаканыя госці, колькасць якіх ужо амаль дасягнула дзесятка чалавек, рэціраваліся.

Вось такім загадкава-таямнічым атрымаўся вечар у пятніцу, 13...

*А ў суботу сп. Свізунова запрасілі на размову ў Першамайскі РАУС. Ён даў тлумачэнні, паказаў адпаведныя дакументы, і сітуацыя зноў увайшла ў прававое рэчышча.*

**А. ЛІТВІНАЎ.**

## ДЗІЎНАЕ ВІНШАВАННЕ

11 кастрычніка ў КСК "Шыннік" адбылася сустрэча ўдзельнікаў Алімпійскіх гульняў з бабруйчанамі. У ёй прынялі ўдзел чэмпіёны Сіднэя Кацярына Карстэн (грэбля акадэмічная), Яніна Карольчык (лёгкая атлетыка — штурханне ядра), нашы землякі — бронзавы прызёр Генадзь Аляшчук (цяжкая атлетыка) і Андрэй Міхневіч (лёгкая атлетыка — штурханне ядра). Спартсмены распавялі падрабязнасці аб сваіх выступах, адказалі на пытанні, прагучаўшыя з месцаў. Але ўрачыстае мерапрыемства сваім зместам, шчыра кажучы, не ўразіла.

Пачалося яно чамусьці амаль з гадзінным спазненнем. Прычым, працісць прабачэння ў гледачоў, да адказу запоўніўшых залу, ніхто нават і не думаў. Выступалі і спартыўныя начальнікі — Рабухін, прэсаташэ НАКа, Барычко, дырэктар НАКа. Іх выступы цалкам засланілі выступы спартсменаў, і па працягласці, і па эмацыянальнасці. Часам складалася ўражанне, што гэта яны галоўныя трыўмфатары, а не сціпла сідзячыя ў кутку Карольчык, Карстэн... Бянтэжылі і іх бязглуздыя жартачкі. Чаго варты, напрыклад, адзін з іх: "Мы жылі з ім па суседству, але вы толькі нічога не падумайце, не ў адным пакоі..." (дружны смех у зале). Маналогі чыноўнікаў перарываліся перадвыбарчай агітацыяй Марыі Вінакуравай, быццам "шмат зрабіўшай для алімпійцаў". Гучалі хвалебныя словы і ў адрас спартсмена № 1 у краіне — "дзякуючы яму" ды "многие лета". Момантамі здавалася, што прысутнічаеш на нейкім партыйным сходзе савецкіх часоў. Вядома, ніякіх табе сюрпрызаў, нечаканасцей. Трывіяльныя віншаванні, кветкі, падарункі. Памятаецца, як у гэтай жа зале некалькі год таму святкавалі трэцяе месца ў чэмпіянаце футбалісты бабруйскай "Белшыны". Дык тая цэрымонія выглядала куды больш цікавейшай, прыгажэйшай і натуральнай за гэтую.

Напрыканцы вядучы абвесціў, што можна ўзяць аўтографы ў «зорак».

Апафеозам безгустоўнасці сустрэчы стала паведамленне, што "зараз пачнецца святочны канцэрт "Донские казаки". Пасля гэтых слоў абсалютная большасць гледачоў рванула ў гардэроб. Мабыць, выхадцаў з Прыдоння не аказалася, ды і казакоў таксама.

**Віктар КАЧАН.**

## НЕРАЗМЕННЫ БУКЕТ

Вечар, прысвечаны Дню маці, адбыўся ў пятніцу, 13 кастрычніка, ў Палацы культуры шыннікаў. На дзяржаўным узроўні гэты дзень адзначаецца сёмы раз. Звычайна такое свята атаясамліваецца са святам шматдзетнай сям'і, ушаноўваюцца мнагадзетныя маці. Хаця галоўнае — не колькасць, а якасць. Бо маці, якая выгадавала аднаго ці двух дзяцей і выпусціла іх на прасторы жыцця добрымі людзьмі, годна ўхвалы не ў меншай ступені. На гэты раз у 91 мнагадзетнай сям'і Першамайскага раёна (у якіх увогуле дзяцей аж 277!) на сцэну выклікаліся сем'і Надзеі Мікуліч, хатняй гаспадыні, Маргарыты Кашаваравай — медсястры дзіцячай паліклінікі і працуючых на ДСК Ларысы Усавай і Наталлі Цэд. Ім былі ўручаны каштоўныя падарункі.

Валянціна Міхайлаўна Русакова з завода ГТВ і Галіна Пятроўна Булгакава, выкладчыца з музычнай школы, парадавалі прысутных сваімі музычнымі выступленнямі. Валянціна Міхайлаўна спявае ў хоры ДК "Шыннік", а Галіна Пятроўна іграе на скрыпцы. Прызнанне слухачоў атрымалі таксама юныя музыканты з шматдзетных сем'яў — Паша Мікуліч і Саша Кашавараў.

У Першамайскім раёне 18 жанчын узнагароджана ордэнам Маці. Звычайна да гэтага свята яны прэзентаваліся грашыма. Не вельмі вялікімі, але, як кажуць жанчыны, на добрую кофту хапала. Сёлета ж ім не знайшлося нават грошай на кветкі.

У заканчэнні на сцэну ў чарговы раз быў вынесены ўсё той жа дзяжурны кош са штучнымі кветкамі, пра які вядучыя заўсёды кажуць, што гэта падарунак мілым жанчынам ад адміністрацыі Першамайскага раёна. Праўда, за гэтыя гады кветкі не павялі. Высветліць, калі і кім у першы раз быў вынесены той "падарунак" на сцэну, мне не ўдалося.

**Людміла РОДЗІКАВА.**



**Свои обращения, отклики, пожелания вы можете прислать нам на адрес: 213809, Бобруйск, а/я 11.**

ДЕНЬ МАТЕРИ

# БЛАГОРОДНЫЕ АВАНТЮРИСТЫ



**Среднему обывателю эти люди так же непонятны, как, например, ход мыслей Эйнштейна. Эта молодая пара — Светлана и Михаил Прокопенко — из деревни Телуша наделена особым, очень редким талантом: любить детей. Скажете: “Что же здесь удивительного? Своих детей любит каждый из нас”. Да, это так. Но все же умение любить и растить детей, которые остались сиротами при живых родителях — это, на мой взгляд, дар, сродни гениальности.**

**У Михаила и Светы трое своих сыновей, а еще шестеро ребятишек стали их приемными сыновьями и дочками.**

— Мы мечтали об этом всю жизнь, — говорит Светлана. — Со дня нашей свадьбы мечтали о большой и счастливой семье. Я не мыслю своей жизни без детей. И не понимаю, что значит “жить для себя”. Для нас быть вместе с детьми — это и есть настоящее счастье.

Михаил и Светлана, несомненно, люди счастливые. По нашему сложному времени, можно сказать, неприлично счастливые. В их многодетном доме царит атмосфера радости, и, как это ни странно, спокойствия. Представьте себе, что в доме, где живет 9 детей от 3-х до 12-ти лет, никто не дерется, не кричит благим матом, даже — просто не плачет. Здесь нет гробовой тишины, запуганных ребятишек, и поминутно слышен детский смех. Здесь улыбаются и посторонние люди, зашедшие на минутку по делу или просто в гости. В этом доме хочется улыбаться, хочется хоть немного прикоснуться к большому счастью большой семьи.

— Трудно отличить, какие из этих детей ваши, — говорю я.

— А мы их и не отличаем, — ответил мне Михаил. — Они все для нас одинаково родные. Но вы не думайте, что у нас всегда такая уж тишина. Однако дети всегда в основном при делах. Помогают нам по дому, в огороде. Между прочим никого из них мы работать не заставляем: хочешь — смотри телевизор. Они сами тянутся за нами, стараются что-то делать. А мы делаем все для счастья детей. Для чего же еще жить? Я постарею, они вырастут и будут продолжать мое дело. У меня интересная, насыщенная жизнь. Мы вместе с детьми на равных обсуждаем все серьезные проблемы, и вместе играем. От детей невозможно устать, напротив, с ними получаешь заряд бодрости.

К сожалению, многим людям, в том числе и односельчанам семьи Прокопенко, непонятен их образ жизни, образ мыслей. Это ж надо такое: мало что сами переехали из Казахстана, можно сказать, беженцы. Едва обжились на новом месте — так еще и детей из приюта набрали. Зачем такая обуза? Вот если б жили как все — это понятно. А если б пили по-черному и детей своих сдали в интернат — тоже понятно. В многодетных семьях такое, увы, не редкость. А они вместо этого зачем-то берут на себя каторжный труд возиться с чужими ребятишками. Может, имеют с этого какую-то выгоду?

Что ж, среднему человеку не понять ход мыслей гения. Так и здесь: нам, людям обыкновенным, в это «въехать» трудновато.

— Вначале я чувствовала, что люди как-то нас сторонятся, — рассказывает Светлана. — Какая для нас выгода опекать чужих детей? А вот какая: один из наших сыновей — Денис; мы полгода ездили в Михалевский приют, пока оформили документы на детей, и за это время ни разу не видели, чтобы Денис хотя бы улыбался. А здесь — слышите, как он смеется? Вот это и есть — наша выгода. У нас нет разделения детей на своих и приемных. Я считаю, что все эти дети — наши, просто вначале по ошибке попали в другие семьи.

Безусловно, у большой семьи — не только большое счастье, но и множество серьезных проблем. В первую очередь, конечно, финансовых. Пособие на всех детей составляет 125 тыс. рублей. Плюс зарплата Михаила. Сами знаете, о размере колхозных зарплат и говорить как-то неудобно. Если бы эта семья могла получить статус детского дома семейного типа — конечно, стало бы немного легче с финансами. Но Прокопенко — не граждане Республики Беларусь, им такое доверие, как семейный детский дом, по всей видимости, оказывать опасно. Им можно пока доверить попытку выкручиваться, как сумеют. Да они и сами не особо ходят по инстанциям с жалобами и просьбами.

— Я добываю деньги своим трудом, — говорит Михаил. — И не хочу просить льготы, чтоб не говорили, что взяли детей ради этого. У меня много специальностей: могу рубить дома, бани, работал и слесарем, и крановщиком, и трактористом. Я в состоянии прокормить своих детей, и их тоже стараюсь учить самостоятельности.

И все ж понятно, что такой большой семье не помешала бы помощь государства. Ведь содержание приютов, интернатов и детских домов обходится налогоплательщикам куда как дороже детских пособий, а результаты… В таких учреждениях дети все-таки остаются сиротами, и это слово часто становится их пожизненным статусом. И еще большинство приютских детей имеют диагноз “умственная отсталость”, который тоже, между прочим, отнюдь не помогает человеку найти свое место во “взрослой” жизни.

— Нам тоже говорили, что мы взяли в приюте дебилов, — рассказывает Михаил. — Но это не так. Да, этих детей некому было учить. Но у них прекрасная память и способности ко всему. Когда мы взяли их из приюта, они не знали даже таблицы умножения. Но теперь уже знают отлично. Мы нагоним все то, что они упустили. Меня часто пугают еще и тем, что у этих детей могут быть дурные наклонности. Мало ли, что они могут натворить… Жизнь покажет, что нам светит. Сейчас главное — вложить в детей то зерно, которое нужно для порядочного человека, а потом они уже сами будут его растить. Конечно, переделать человека нельзя, но можно научить его сдерживать свои плохие качества. Очень плохо, когда ребенок растет вне семьи. В детском доме, пусть даже самом лучшем, его не научат, как создать свою семью, не научат налаживать отношения между супругами. Между мужем и женой часто возникают конфликты из-за того, что один из них — романтик, а другой — практик. Мы со Светой оба романтики, в любую авантюру пускаемся с головой. И из любой ситуации вместе с детьми делаем праздник.

При всех тяготах бытия, глядя на семью Прокопенко, понимаешь, до какой степени счастливой может быть многодетная семья. Даже как-то стыдно становится, что у тебя самого — один или двое детей, а тебе с ними еще и бывает трудно, а ты от них еще и устаешь…

Как хорошо все-таки, что есть на земле такие благородные авантюристы, способные сделать жизнь праздником — для себя и для своих детей.

**Ирина ВЕРБИЦКАЯ.**

СМЕХ СКРОЗЬ СЛЁЗЫ

# БПСМ: ЗВЫЧКІ І ЛАД ЖЫЦЦЯ

Па тэлевізары ў перадачы “Клуб путешественников” часта распавядаюць пра афрыканскіх пігмеяў, папуасаў Новай Гвінеі. Такія перадачы з цікавасцю глядзяць сотні тысяч нашых суайчыннікаў. Захапляюцца замежнай экзотыкай і не падазраюць аб існаванні на Беларусі не менш самабытнага віду чалавека разумнага.

Гэта — так званы бэпэсэмавец звычайны, распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Малавывучаны від. Роспыты пра яго дзейнасць і лад жыцця не даюць амаль што ніякіх вынікаў. Нават самыя адукаваныя і дасведчаныя людзі, якім даводзілася бачыць жывых бэпэсэмаўцаў, не могуць распавесці нічога пэўнага. Так настаўнікі Бабруйскага раёна сцвярджаюць, што чулі пра нейкія справаздачна-выбарчыя сходы БПСМ. Чым займаюцца прадстаўнікі віду ў астатні час — невядома. Адзін з выкладчыкаў Магілеўскага ўніверсітэта кажа, што нічым, аднак вельмі любяць прасіць падтрымкі.



Як бачыце, звестак мала, ды і тыя, сабраныя, даволі спрэчныя і размытыя. Таму адзінай даступнай крыніцай інфармацыі аб БПСМ з'яўляецца маляўнічы плакат з надпісам “БПСМ — живи интересно”. Убачыць яго можна ў самых нечаканых месцах: у школьным гардэробе, прадуктовай краме, на пошце, тэлеграфным слупе. На адной з размешчаных на плакаце фотакартак паказана, як правільна ставіць палатку. На другой — усміхаюцца і абдымаюцца дзяўчаты на ролікавых каньках. Ніякіх тлумачэнняў не дадзена. Навошта? І так зразумела — у БПСМе кожнага навучаць ставіць палатку, а яшчэ падораць ролікавыя канькі.

Пры глыбейшым даследванні, пад час зносін з прадстаўнікамі вышэйпамянутай папуляцыі ўдалося вылучыць некалькі падвідаў бэпэсэмаўца звычайнага.

1. *Школьнік вясковы.*

Састаўляе каля 70% агульнай колькасці. Ім, як правіла, усё роўна, да якой папуляцыі належыць. Такая ў іх псіхалогія. Нічога тут ужо не зробіш. Тым больш, калі абяцаюць новае пасведчанне з уласнай фотакарткай, з якім пасля ўрокаў можна ў «Мянтоў» паіграць ды наведваць дыскатэкі ў клубе за палову кошту.

2. *Вундэркінд хітры.*

Прадстаўнікам падвіду абыякава на каго працаваць — на бацьку ці на чорта лысага. У адрозненні ад школьніка вясковага ўсведамляюць і не хаваюць гэта ў прыватных размовах. Для іх галоўнае — карысць, хаця б невялічкую: пазбегнуць адлічэння з універсітэту за непаспяховасць, атрымаць пасаду, збегчы раней з працы, прыкрыўшыся сходам або канферэнцыяй.

3. *Бязмен двуногі.*

Не пытайцеся ў яго: “Чаму ты ў БПСМ?”. Ён вам не адкажа. Ніколі не задумваўся над такім пытаннем. У лепшым выпадку ён прабубніць нешта накшталт: “Рабята там вясёлыя, кэвээншчыкі бывшыя”. Дадзены падвід проста не ведае, куды сябе прыткнуць. Схільны шукаць сваё месца ў жыцці да пенсіі. Хранічна няздольны да самастойнага існавання, як мураш без мурашніка, блыха без сабакі.

4. *Дзевачка-прыпевачка.*

Уступіць у БПСМ папрасілі настаўнікі, а можа, проста не хапае грошай на дыскатэкі. Без дыскатэк сумна, а хадзіць па партыйных справах у кароткай спадніцы і ўсміхацца ў прэзідыум дарослым дзядзькам падабаецца з кожным разам усе больш і больш.

5. *Пудзіла партыйнае.*

Стыль жыцця індывіда можна ахарактарызаваць выслоўем «навошта пудзіла, я сам на агародзе». Усе навокал звычайна, так яго і ўспрымаюць. Таму не хочуць разам з ім піць гарэлку і пляткарыць. Мае зашмат паталагічнага ў паводзінах і звычках. Каб неяк кампенсаваць адхіленні, заваяваць давер і павагу знаемых, далучаецца да папуляцыі.

Вось бачыце, якія рознастайныя самабытныя людзі сабраліся ў БПСМе. Іх можна лёгка вывучыць не толькі ставіць палатку, ездзіць на роліках, але і быць сапраўднымі патрыётамі.

**Таццяна БАРЫСІК.**